# 18 САКАВІКА 1871 г.

*(Да дню Парыскай Комуны).*

Савецкая ўлада ёсьць другі сусьветна-гістарычны крок разьвіцьця дыктатуры пролетарыяту. Першым крокам была Парыская Комуна. *(Ленін).*

18 сакавіка ў 1871 г. рабочыя і рамесьнікі Парыжу ўзьнялі паўстаньне супроць буржуазнага ўраду і захапілі ўладу ў свае рукі.

Самай непасрэднай прычынай выбуху паўстаньня было тое, што тагочасны галоўны міністр Францыі Т'ер зьбіраўся здрадзіць Парыжу і аддаць яго немцам. Немцы тады якраз ваявалі з французамі. Т'ер разьлічваў на тое, што немцы дапамогуць яму зьнішчыць выступленьні і незадавальненьні парыскага пролетарыяту.

З 17 на 18 сакавіка Т'ер зьбіраўся раззброіць так званую нацыянальную гвардыю, якую арганізавалі самі рабочыя Парыжу. Але нацыянальная гвардыя не дапусьцілася да гэтага і ўзьняла паўстаньне, якое хутка вырасла ўва ўсенароднае паўстаньне.

Т'ер і буржуазія пакінулі Парыж і ўцяклі Уцяклі для таго, каб сабраць армію і рынуцца на рабочы Парыж.

З перамогай рабочых у Парыжы ўтварылася комуна.

Парыская комуна пратрымалася толькі 72 дні. Але і за гэты кароткі час парыскія рабочыя зрабілі шмат чаго з таго, што на другім канцы Эўропы расійскія рабочыя паўтарылі праз 47 гадоў у кастрычніку.

Комуна абвясьціла:

„Зямля—сялянам, фабрыкі—рабочым, работа—усім“

„Няхай ня будзе болей ні вельмі багатых, ні вельмі бедных“.

Парыскія рабочыя выпусьцілі адозву да вясковага насельніцтва:

„Парыж хоча, каб сын селяніна мог атрымаць такую-ж асьвету, як і сын багатага, і атрымліваў-бы дармова, бо асьвета таксама-ж патрэбна яму, як вочы, каб бачыць...

Парыж патрабуе, каб увесь цяжар падаткаў прыпадаў на багатых“.

Уся царкоўная маемасьць была аддадзена народу, а царкву адлучылі ад дзяржавы, каб французскія папы спынілі абманваць народ і зьдзеквацца з яго.

Комунаркі выпусьцілі адозву



*Парыскія комунары.*

да парыскіх жанчын:

„Жанчыны, прышоў рашучы міг. Трэба зьнішчыць стары сьвет.

Дзе вашы дзеці, браты, мужыкі? Ці чуеце вы гул гармат і прызыўны кліч трубаў?

Да зброі!

Калі ўся зброя, штыкі разабраны нашымі братамі, дык на нашу долю астаецца каменьне, каб ім біць здраднікаў рэволюцыі“.

Т'ер з буржуазіяй хутка, сабраўшы сілу, уварваўся ў Парыж.

Сьмела і адважна змагаліся парыскія рабочыя на барыкадах.

Не адставалі ад рабочых і комунаркі і дзеці. Шмат іх палегла на барыкадах у тыя дні.

Але сілы былі няроўныя.

Ня было ў парыскіх рабочых моцнай партыі, ня было сувязі з сялянствам, не падтрымала ўся краіна.

28 мая была разьбіта апошняя барыкада рабочых.

А ўвечары была расклеена абвестка аб тым, што старая ўлада,—капіталістых, адноўлена.

Пачалася дзікая помста. Буржуазныя натоўпы запоўнілі вуліцы Парыжу і любаваліся з таго, як расстрэльвалі комунараў.

Палкамі і чым папала праколвалі вочы багатыя дамы палонным рабочым і іх дзецям.

Расійскія рабочыя вельмі спачуваюча аднесьліся да парыскіх комунараў.

Яшчэ ў 1878 г. адэскія рабочыя паслалі прывітаньні французскім рабочым:

„Мы з нецярплівасьцю чакаем прыходу тэй хвіліны, калі і мы зможам рынуцца ў бойку за правы працоўных, за панаваньне свабоды“.

6 чэрвеня 1924 г. парыскі пролетарыят прыслаў сьцяг Парыскай Комуны ў Маскву. Дэлегат французскіх рабочых, т. Кост, сказаў: „Няхай жыве расійская рэволюцыя, якая адпомсьціла за Комуну“.

Сьцяг Комуны захоўваецца ў маўзалеі Леніна, над труною Ільліча.

За Комуну змагаюцца тысячы пролетараў ва ўсім сьвеце. Пролетары іншых краін з надзеяй глядзяць на ўсход, савецкая краіна падмацоўвае ў іх веру ў перамогу. Сотні тысяч такіх змагароў пападаюць у буржуазныя турмы, а дзеці іх і жонкі астаюцца жабракамі, абяздоленымі, галоднымі.. Гэтым барацьбітом на дапамогу прыходзіць мільённы МОПР.

18 сакавіка — дзень Парыскай Комуны—зьяўляецца ў нас днём МОПР-а, днём прызыву на дапамогу барацьбітом за Комуну ва ўсіх краінах.

Рэдколегія: Баліцкі А., Брыгневіч Г., Пякарчык А., Сьцяпанаў, Якімовіч А. Адказны рэдактар А. Пякарчык.

*Год выданьня 5-ты.*



**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы— р. 60 к.
„ 6 ц-аў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

**№ 5** **САКАВІК** **1929 г.**

## За падвоены ўраджай, за колектыўную гаспадарку!

### ПАДВОІМ УРАДЖАИ!

На лёзунг аб падваеньні ўраджаю наш атрад і вучні адгукнуліся вельмі хутка.

Быў склікан сход фарпосту з удзелам усіх вучняў, на якім настаўнік і павадыр растлумачылі аб тым, чаго дабіваецца комуністычная партыя і савецкая ўлада ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі і ў чым мы можам дапамагчы.

Мы парашылі намеціць шэраг практычных мерапрыемстваў па падвышэньні ўраджайнасьці сялянскіх палёў.

Усіх вучняў нашай школы мы разьбілі на асобныя групы на чале з кіраўнікомнастаўнікам. Дзеля працы кожнае групы была вызначана асобная вуліца ці вёска. Кожнай групе мы далі заданьне:

1. Растлумачыць селяніну аб карысьці зьбіраньня попелу і як яго ўжываць.
2. Растлумачыць селяніну аб карысьці ачысткі насеньня перад вясноваю сяўбою.

Вучні вельмі ахвотна ўзяліся за працу. Адразу пасьля сходу яны разышліся па сваіх вучастках дзеля працы.

Ад сваёй работы мы маем і добрыя вынікі. У тых вучастках, якія мы ахапілі, амаль кожны селянін зьбірае попел, а таксама ведае, чаму патрэбна ачышчаць насеньне. Зараз разгортваецца работа па ачыстцы насеньня. Трыер працуе ва ўсю.

Работа сярод сялян па падвышэньні ўраджайнасьці зараз у самым разгары. Ідзе падрыхтоўка да вясеньняй сяўбы. Піонэры і вучні ў гэтым прымаюць вялікі ўдзел.

Спадзяемся, што лёзунг аб падвышэньні ўраджайнасьці мы выканаем і даб'емся падвойнага ўраджаю на сялянскіх палёх.

*Паўлоўскі П.*

м. Бабёр, Аршанская акруга.

### ЗА КОЛЕКТЫЎНУЮ ГАСПАДАРКУ.

Вучні нашай сямігодкі наладзілі добрую сувязь з сялянамі п. Маладлёва, Дукорскага с/с.

Па два-тры чалавекі амаль кожны тыдзень ходзяць у Маладлёва (якое ў 3-х вярстох ад саўгасу), праводзяць гутаркі па сельскай гаспадарцы.

Усё гэта робіцца пад кіраўніцтвам заг. школы Ваўчэцкага і настаўніка Даўгулевіча.

Мы мяркуем з вясны організаваць колектыў у Маладлёве.

**Г. Ф.**

*(Дукорская 7-годка імя „16 партызан").*

### ШТО МЫ ЗРАБІЛІ

У мінулым годзе вучні нашай школы хадзілі ў лес зьбіраць шышкі і косьці. Мы сабралі сем пудоў касьцей і пяць пудоў шышак. Усё гэта мы прадалі ў мясцовую коопэрацыю і нам заплацілі тры рублі 50 кап. Грошы мы скарысталі на патрэбы сваёй школы.

Зараз мы зьбіраем попел. Ужо сабралі 50 пудоў. Увесну мы попел пасыплем на свой школьны вучастак і пасеем турнэпс, бульбу і буракі.

Наша школа правяла вялікую работу па пашырэньню падпіскі на газэты сярод сялян. Цяпер сяляне нашай вёскі выпісваюць 128 экзэмпляраў розных газэт і сельска-гаспадарчых часопісяй (у вёсцы 312 двароў).

Мы дзеля сябе таксама выпісваем газэты: „Піонэрскую Праўду", „Дружные ребята" і „Беларускі Піонэр".

*Колектыў вучняў Насовіцкай школы, Мазырскай акругі.*




*Будучыя трактарыстыя.*

# ЯК ПЕТРЫК З АРЫНАЙ АЧЫШЧАЛІ ЗЯРНІНУ.

Верш Зайкі.

Малюнкі *Здракоўскай.*

I

Раз у вёску Недацёкі
Прывязьлі машыну,
Што так добра чысьціць можа
Ўсякую зярніну.

'Шчэ сьняжок ляжаў на полі
Белымі пластамі,
Як у Недацёкскай школе
Газэту чыталі.

І пісалася ў газэце,
Каб сяляне ўсе
Ачышчалі ў сельсавеце
Зерне для пасеву.

Добра слухалі газэту
Пятрусёк з Арынай
І бацьком сказалі ўвечар
Гэтую навіну.

На Арыну бацька глянуў, і—
„Ах, каб ты падохла...
Вучыш бацьку дужа рана,—
Губы не абсохлі...

А за гэтую параду
Я не падарую...
Вось лажыся на палаці,—
Трохі палупцую...

Мо' тады ня станеш болей
Нас вучыць, псяюха...
А калі гавораць ў школе,
Дык паменей слухай“.

. . . . . . . . . . . . . . .

Петрыкаў-жа бацька плюнуў,—
Кінуў і вячэру...
„Падвучылі можа ў клюбе,
У гэтых піонэраў?

Колькі год жыву на сьвеце,
Стаў слабы вачыма,
А ня чуў нідзе, каб дзеці
Ды бацькоў вучылі...

У Нямеччыне, ў палоне,
Гэткага ня бачыў,
А цяпер сынок мой родны
Татку чым аддзячыў?!

Ну, а „добрую параду“
Не вазьму дарэмна—
Заплачу такому гаду...
Гэй, падайце „рэмня“!..

. . . . . . . . . . . . .

На другі дзень, у нядзелю,
Сьветлай раніцою
Зноў сышліся тыя дзеці,
Селі пад страхою.

Сталі гутарыць журботна,
Як было ў іх хаце,
Ды няшчасную суботу
Ліхам памінаці...

Петрык чухает тут вуха,
Гладзіць сваю сьпіну...
„Мне дык горш за аплявуху“—
Кажа тут Арына.

Ты памацай толькі плечы,—
Сіняк ускочылі...
На бацькоў у той весь вечар
Добра мы наскочылі...“

— „Што цяпер рабіць мы
будзем“,—
Ёй гаворыць Петрык...
„Ці-ж бацькі нашы ня людзі,
Горшыя на сьвеце?..

Нават вось крывы Анісім,
Дык і той—зірнеш ты—
Сваё зерне паачысьціў
Да апошняй рэшты.

Дык няўжо мы гэта кінем,
Кінем без карысьці?..“
А яму ў адказ Арына:
„Слухай! Падзівіся!..

Я надумала такое,
Што—усім на-дзіва—
Будзе збожжа бяз куколяў,
Чыстым, урадлівым



А для гэтага нам, браце,
Трэба вечарамі
Усё зерня пачысьціць
Уласнымі рукамі...

А тады няхай пасеюць,
Падумаюць—старое,
Там мы выкруцімся неяк,
А цяпер ня тое...“

Як сказалі, так зрабілі...
І вось да машыны
Кожным вечарам насілі
Свае зерня з гэтай хвілі
Петрык і Арына.

—

Ночку цэлую ня спалі,
Думка іх трывожыць:
Што як бацька ды пазнае?..
Што як дрэнна ачышчалі
Ды ня ўзыйдзе збожжа?

—

Не'к вясною раньне
Ў небе занялося,
Пурпуровае сьвітаньне
У агністым парываньні
Рассыпала косы.

—

А бацькі ужо усталі,
Запрагалі коняй,
І на поле выяжджалі,
Дзе пад сонечнаю хваляй
Лашчыліся гоні.
Там засеялі збажыну
У зямлю сырую,
А ня ведалі прычыны,
Ад чаго яна праз тыдні
Пышна закрасуе.






II

І лета прыходзіць
Ў пекнай красе...
Якія прыгоды
Яно прынясе?

Ці сонца папаліць
Нізіны і дол?
Ці дожджык папары
Акропіць вадой?

Ці шчасьце, ці беды
Спаткае наш край?
Ці прыдзе ў палетак
Да нас ураджай?

Чакаючы жніва,
З Арынай Пятрок
Прыходзяць на поле
Кожны дзянёк.

Бягуць так гульліва
І рады бяз слоў:—
Лепшых на ніве
Няма каласоў!

Іх сонца ня спаліць
Пякучай парой,
Іх дожджык спагадны
Абмые вадой.

III

Прывет табе, вольная праца!
Часіна навостраных кос...
Як добра касою намацаць
Траву між зялёных палос.

Як добра з сярпом на паляне
Зразаць і вязаць каласы...
Прывет табе, летняе раньне,
Прывет, агнявыя часы!

І вось зашапталі даліны
Дзівосную казку жыцьця.
І хіліцца долу няспынна,
Чакаючы сьмерці, трава.

Пятрук і Арына таксама
З бацькамі на поле ішлі.
Размовы вялі з каласамі,
Як пчолкі, на ніве гулі.

Пасеў урадзіўся на славу,
Бацькі абціраюць свой пот...
„Глядзі! Нячуваная справа!
Які яшчэ будзе ўмалот?"

„Сам-сорак дала дзесяціна,
Сам-трыццаць зьбіралі заўжды".
Сьмяюцца Пятрок і Арына,
Пацеха з бацькоў маладым.

„Чаго яны гэта рагочуць?"
Гаворыць Арынін айцец.
„А хто тут за імі прасочыць,
Зрабілі мо' што, ды канец!"

Пятрусь засьмяяўся тут болей,
Дзядзьком жартаўліва міргнуў:
„Зірнеце на гэтае поле
І ўспомніце гэту вясну.

Арына і я вам казалі,
Каб зерня на трыер вязьлі,
А вы тады нас лупцавалі,
І добра, папраўдзе, далі.

Ды мы ня спужаліся вельмі,
А чысьцілі самі ў той час,
Таму вось сягоньне пасьпелі
Такія зярняты у нас.



Бацькі паглядзелі ў зьдзіўленьні,
Патыліцы чухаюць толькі...
„Вось гэта сапраўды здарэньне.."
„Ну, й дзетак мы маем, Панас!"

„Бо вучацца ў школе, канечна,
Ды бачаць ня гэтакі сьвет...
„І нам, брат, патрэбна, бяспрэчна,
Засесьці за той альфабэт".
А дзеці—дык рады бяз меры,
Аж скачуць на мяккай мяжы.
Нядарма-ж яны—піонэры,
І ўмеюць па-новаму жыць".

IV

Так вось летась працавалі
Петрык і Арына,
І бацькоў перараканалі
Прыкладам карысным.

Цэлы год мінуў, як тыдзень,
А якія зьмены...
Не забудуцца пра тыя
Дні бацькі, напэўна.

Пачалі чытаць і кніжкі
З сельскай гаспадаркі,
Завяліся нават лішкі—
Пойдуць на падаткі.

І чытаюць у газэтах,
Як жывуць на сьвеце.
Ды зжыліся дружна гэтак
І бацькі і дзеці.

...Раз у вёску Недацёкі
На адну лужайку
Неяк трапіў касавокі
Беларускі зайка.

Ён пабачыў, як Арына
З Пятрусём гулялі
І ля буйнае ярыны
Гэтак размаўлялі:

„Вось цяпер жыцьцё—маліна,—
Усяго нам хопіць,
Дык падпішамся, Арына,
На сваю часопісь!"

Тут хутчэй пабег наўцёкі
Праз ляскі, далінкі
Шэры зайка касавокі
Да паштовай скрынкі.

Ён сьпісаў пра ўсё здарэньне—
Вышла дзеткам байка.
А пакуль—да пабачэньня!

Ваш знаёмы—
*Зайка.*






## Чыя фабрыка лепшая.

Паспрачаўся раз рабочы з селянінам.

— Наша справа лепшая за вашу,—кажа рабочы.—Ты вось працуеш за чацьвярых, устаеш раненька, цэлы дзень сьпіны не разгінаеш. А ці выйдзе толк з твае працы, гэта яшчэ невядома. Іншы раз ураджай добры, а іншы раз і таго не зьбярэш, што пасеяў.

Іншая справа ў нас, на фабрыцы. Вось я, напрыклад, пры мылавараным катле знаходжуся. Прыходзіць к нам раніцою кіраўнік. Кажа майстру Сьцяпану Тодаравічу:

— Сьцяпан Тодаравіч, сёньня зварэце паўтары тысячы пудоў.

Сьцяпан Тодаравіч вымае зараз-жа аловачак, робіць на паперцы разрахунак і кажа:

— А ну, сябры, накладайце ў кацёл 800 пудоў сала, 200 пудоў поснага масла, 225 пудоў шчолаку і налівайце вады.

І што-ж ты думаеш?

Роўна паўтары тысячы пудоў мыла і выходзіць. Як у аптэцы. А ў тваёй працы—ці-ж гэтак? У гэтым годзе ты, напрыклад, з дзесяціны 60 пудоў сабраў, а ў будучым годзе, можа, і 20 не зьбярэш. Уродзіць зямля—добра, а ня ўродзіць—трэба зубы на паліцу класьці. Праўду я гавару?

Селянін быў чалавек з галавою, добры гаспадар.

— Не, кажа, няпраўду ты кажаш. Поле—тая-ж фабрыка. У цябе кацёл, а ў мяне зямля. Ты ў кацёл сала кладзеш, а я гной. Твая фабрыка мыла вырабляе, а мая—хлеб.

Ты кажаш: у вас майстар разьлічвае, колькі чаго палажыць, а я, думаеш, не разьлічваю?

Зямля-ж бывае розная: у аднэй аднаго не хапае, у другой—другога. Вось і прыходзіцца разрахоўваць, чаго прыбавіць і колькі. У добрага гаспадара неўраджаю быць не павінна, хіба толькі суш здарыцца або якое іншае няшчасьце. Ды і твая фабрыка таксама згарэць можа.

— Вось, брат, як справа абстаіць. Ты—рабочы, і я—рабочы. Толькі ты на мыльнай фабрыцы працуеш, а я на палявой—на зялёнай.

Падумаў рабочы і адказвае:

— А ўсё-такі твая фабрыка—ня фабрыка. Калі я ў мыльны кацёл нічога не палажу, ніякага мыла ня будзе. А хлеб бяз усялякага ўгнаеньня вырасьце, была-б толькі зямля.

Спрачаліся яны, спрачаліся, ды так і не дагаварыліся ні да чаго. Хто-ж з іх казаў праўду?

## Ці будзе расьці хлеб, калі зямлю ня ўгнойваць?

Ёсьць у Ангельшчыне гарадок Ротамстэд. А ў Ротамстэдзе—вялікая дасьледчая станцыя. Гэта такая гаспадарка, дзе праробліваюць усялякія спробы і досьледы, каб уведаць, як трэба ўрабляць зямлю. Дык вось зрабілі там такі досьлед: на многа гадоў пакінулі адно поле без усялякага ўгнаеньня, каб паглядзець, як будзе хлеб расьці на няўгноенай зямлі. Што-ж з гэтага вышла?

У першы год з дзесяціны было сабрана 79 пудоў пшаніцы, праз дзесяць гадоў дзесяціна стала даваць толькі 60 пуд., яшчэ праз дзесяць—40 пудоў, а цяпер не дае і 30-ці. Скора на гэтым полі і зусім нічога расьці ня будзе. А побач, на ўгноеных палетках зьбіраюць паўтараста пудоў—у пяць раз болей.

Ды інакш і быць ня можа. З чаго на зялёнай фабрыцы робяць хлеб? З таго матар'ялу, які ёсьць у зямлі. Раз ураджай зьнялі, матар'ялу гэтага на зялёнай фабрыцы стала меней, трэба матар'ялу прыбавіць? А як прыбавіць? Заараць у зямлю гной ці іншае штучнае ўгнаеньне.

## Ці можа расьці хлеб без усялякай зямлі?

Калі варыш кашу, самае галоўнае—каб крупы былі. А ў чым варыць: у кацялку ці ў гаршчку—гэта ня так важна. Тое-ж самае і ў сялянскай справе. З угнаеньнем можа і на дрэннай зямлі расьці хлеб, а без угнаеньня зямля радзіць перастане.

У немцаў зямля горшая за нашу, а ўраджай у тры разы большы, чым у нас. Чаму? А таму, што яны зямлю добра ўгнойваюць.

Хлеб можа нават і зусім без зямлі вырасьці—у скрынцы з пяском, адно каб былі ў пяску належныя матар'ялы. А матар'ялы гэтыя можна купіць у аптэцы—усяго патрэбна некалькі парашкоў, у якіх знаходзіцца пяць розных матар'ялаў. Калі гэтыя парашкі рашчыніць у вадзе, вымераць, колькі трэба, і зьмяшаць з пяском, атрымаецца штучная зямля, якая будзе ня горшай, а лепшай за звычайную. У скрынцы хлеб вырасьце так добра, што каб быў у нас такі ўраджай на полі, мы-б зьбіралі з дзесяціны па 1000 пудоў.

Зразумела, поле—ня скрынка, у полі такога ўраджаю быць ня можа, а ўсё-ж такі можна і ў полі на пескавой глебе дасягаць значнага ўраджаю, калі гэты пясок угноім належным чынам.

## Які матар'ял патрэбен зялёнай фабрыцы.

Што-ж гэта за цудоўныя парашкі, якія з пяску робяць добрую зямлю? З выгляду яны падобныя на соль. Іх завуць солямі. Бяз гэтых соляў расьліна жыць ня можа. Калі мы забудземся палажыць у скрынку з пяском хоць адзін з парашкоў, расьліна нам аб гэтым абавязкова ўспомніць.

Напрыклад, мы забыліся палажыць соль, на пакеціку якой напісана: калійная соль. Расьліна вырасьце слабенькаю, малою, зусім хвораю. На лістох будуць

жоўтыя плямы, як ад грыбка. Сьцябло будзе зусім мёртвае, вялае.

Расьліна будзе крычаць:—Я галадаю! Ратуйце! Дайце мне калія, а то я загіну.

А калій—гэта ёсьць той матар'ял, які мы забыліся палажыць у пясок.

Калі мы забудземся палажыць другую соль—салетру, якая мае вельмі важны матар'ял — азот, расьліна таксама будзе слабая і маленькая. Жаўцізна пойдзе па лістох ня плямамі, а суцэльна.

Трэці важны матар'ял, гэта—фосфар. Калі ў пясок не палажыць фосфарнай солі, расьліна хоць і будзе зялёнай, а расьці ня будзе—так і застанецца на ўсё жыцьцё маленькай.

Патрэбны расьліне і іншыя матар'ялы, але гэтыя тры—калій, азот і фосфар—самыя галоўныя, іх часьцей за ўсё ў зямлі не хапае.

Чалавеку таксама патрэбны гэтыя матар'ялы, асабліва азот і фосфар. Азот ідзе на рост нашага мяса, а фосфар—на рост касьцей.

У добрай зямлі ёсьць і калій, і фосфар, і азот. Але з кожным годам іх становіцца ўсё менш і менш. Частка вывозіцца ў горад у зярнятах і ў муцэ, частка зьядаецца скацінаю і ператвараецца ў мяса, малако, масла. Усё гэта, значыць, адыходзіць з зямлі назаўсёды. Зразумела, частка таго, што зьядае скаціна, варочаецца назад у зямлю з гноем. Але аднаго гною для ўгнаеньня мала. Каб зямля давала добры ўраджай, патрэбен яшчэ „штучны гной“—парашкі, накшталт тых, якія мы клалі ў пясок. Парашкі гэтыя часта дорага каштуюць.

Праўда, шмат што можна зрабіць і без вялікіх выдаткаў. Замест таго, каб купляць дарагую салетру, можна лавіць азот проста з паветра,—яго там шмат. Гэта можа кожны селянін рабіць без усялякіх машынаў. Дзеля гэтага трэба сеяць лубін, сэрадэлю, канюшыну і інш.

## Ці ёсьць на зялёнай фабрыцы машыны?

На ўсялякай фабрыцы ёсьць машыны. Чым лепшая машына, тым і праца йдзе лепей і хутчэй. Гадоў паўтараста назад на фабрыках усё рабілі рукамі, машынаў яшчэ ня было, а цяпер ручной работы амаль нідзе і ня ўбачыш.

Але на зялёнай фабрыцы ручной работы яшчэ вельмі шмат, асабліва ў нас, у Савецкай Беларусі. У Амэрыцы ўжо даўно машынамі і аруць, і жнуць, і сеюць, і барануюць, і ваду набіраюць, і масла б'юць, і нават анучы мыюць. Для кожнай работы там асобная машына: хлеб малоціць малатарня, масла б'е маслабойка і г. д. А прымушае іх усіх працаваць трактар. Для гэтага трактар мае асаблівае кола. У машыне таксама ёсьць гэтакае-ж кола. На кола гэта нацягваюць пас. Калі трактар пускаюць у ход, пас пачынае бегаць з кола трактара на кола машыны.

Не пасьпееш аглянуцца, як за трактарам пашла ў ход і машына.

Чаму-ж у нас на другіх фабрыках машын многа, а на зялёнай фабрыцы мала?

А зусім проста. Другія фабрыкі вялікія, на іх іншы раз па тысячы чалавек працуе, а зялёныя фабрыкі маленькія.

Каб купіць машыны, трэба сялянам свае маленькія фабрыкі злучыць у вялікія—арганізоўваць таварыствы. Вялікая сялянская фабрыка зможа і машыну купіць, і ўгнаеньне дастаць, і нават, калі патрэбна, узяць сабе на дапамогу „зялёнага інжынэра“—агранома.

**Я. Ільлін.**

## Пасьля жніва.



*Мал. А. ТЫЧЫНЫ з сэрыі „Беларуская Вёска“.*





# Больш птушак—менш

## ДЗЕНЬ ПТУШАК.

Разам з вясной ляцяць на сваю бацькаўшчыну птушкі з цёплага краю, ляцяць у свае старыя, параскіданыя гнёзды. Лясы, палі і гаі абуджаюцца і напаўняюцца птушынымі сьпевамі.

Любуючыся хараством птушыных сьпеваў, мы часта забываемся пра тую вялікую карысьць, якую прыносяць нам птушкі.

Мы даглядаем хатніх птушак, паляпшаем іх пароду. Але мы вельмі мала думаем аб дзікіх птушках. Мы гвалтоўна іх зьнішчаем, ня гледзячы на тое, што яны прыносяць нам вялікую карысьць.

Некаторыя віды птушак зьнішчаны, а некаторыя зьнішчаюцца, як, напрыклад: шэрыя курапаткі, глушцы, цецярукі, дзікія качкі.

Вельмі часта яшчэ дзікія птушкі зьнішчаюцца проста так сабе дзеля пустой забавы. Шмат якія дзеці, а часта ў гэтым ліку і вучні забіваюць і калечаць птушак, ловяць іх і садзяць у клеткі.

Між тым, птушкі прыносяць нам вялікую карысьць тым, што зьнішчаюць безьліч усякіх мошак і казюлек, — розных шкоднікаў палёў, садоў і агародаў. Толькі нязвычайная *пражэрлівасьць* птушак зьнішчае мільёны ўсіх гэтых кляновых жукоў, златагузак, саранчы і іншых шкоднікаў, ад якіх гіне значная частка ўраджаю — на два мільёны рублёў штогод.



*Гняздо сініц.*

Наогул няма таго віду птушак, якія-б ня прыносілі карысьці; толькі некаторыя з птушак прыносяць невялічкую шкоду.

Урэшце, усе птушкі даюць добрае ўгнаеньне для палёў (птушыны памёт).

Трэба аб птушках падумаць, ня нішчыць іх дарэмна, асабліва тады, калі яны выводзяць дзяцей; ахоўваць іх ад шкоднікаў—бяспрытульных кошак і сабак, ад хуліганаў-хлапчукоў, узяць іх пад свой нагляд.

Але, каб ахоўваць птушак, патрэбна іх любіць, а каб іх любіць—трэба іх ведаць.

Вывучайце-ж птушак, наглядайце за іх жыцьцём у прыродзе, рабеце для іх гнёзды, падкормлівайце іх узімку, беражэце іх, прываблівайце ў свае сады і гаі!

У барацьбе за ўраджайнасьць не забывайцеся і пра сваіх верных памочнікаў і сяброў—птушак!

## НЯ ЗЬНІШЧАЙЦЕ ПТУШАК!



*Шкодныя „прыхільнікі“ птушак...*

Хутка прыляцяць птушкі. Пачнуць рабіць гнёзды, выводзіць дзяцей. А тут і пачынаецца бяда.

Аблюбавала птушка зацішнае месца ў кусьце ці на дрэве, зрабіла гнязьдзечка, а за ёй цікуе цікавы да ўсяго жэўжык або кот.

Спусьцілася птушка браць саломінку на гняздо, а яе кошка—цап!.. Але ўявім, што ўсё абышлося добра: гняздо зроблена, у яго паложаны яечкі. А які-небудзь падшывалец па некалькі раз у дзень трывожыць птушку, зганяе з гнязда, каб „паглядзець яечкі“. Спачатку ён сам глядзеў, а потым таварышом паказаў. Яны таксама пачнуць глядзець і трывожыць птушку.—Птушка тады возьме і кіне гняздо.

Ізноў прапала цэлая сям'я, якая-б прынесла чалавеку вялікую карысьць.

А што робяць з гнёздамі качак, курапатак, перапёлак? Тут ужо кожны пачынае шукаць іхнія яйкі для рознай патрэбы.

Вясковыя хлапчукі, асабліва пастушкі, зьбіраюць яйкі птушак і пякуць яешні.

Дарэмна зьнішчаюцца тысячы яек, якія-б далі вялізарную карысьць потым.

Самая вялікая бяда—гэта раскідваньне гнёздаў увесну.

Дзеці! Падыходзіць вясна. Падумайце аб птушках і арганізуйце шырокую кампанію па ахове птушак і іх гнёздаў.

**Стары дзед.**



*Бакас.*

# шкоднікаў, большы ўраджай.



## ЯК ОРГАНІЗАВАЦЬ СЬВЯТА ПТУШАК.



*Шпак.*

Лепш усяго для гэтага выбраць знарочыстую камісію, якая будзе кіраваць работай.

Камісія вызначае, якую работу трэба правесьці сярод дзяцей і дарослых, выбірае садовы вучастак, у якім будзе праводзіцца работа, вызначае, хто і дзе будзе падрыхтоўваць птушыныя гнёзды, якія дзеля гэтага патрабуюцца сродкі, адкуль іх узяць, якія патрабуюцца матар'ялы (дошкі, цьвікі і г. д.), колькі чалавек можна прыцягнуць да падрыхтоўчай работы, колькі будзе ўдзельнічаць у „Дні птушак" і хто можа ўдалейшым наглядаць за разьвешанымі штучнымі гнёздамі.

**Вытворчая работа.**

Трэба падрыхтаваць патрэбны матар'ял і інструманты (дошкі, паленцы, цьвікі, вінты, малаткі, пілкі, адвёрткі і г. д.).

Складаюцца рысункі дуплянак і шпакоўняў, якія потым пачынаюць рабіць (аб тым, як рабіць шпакоўні і дуплянкі, глядзі „Бел. Піонэр" за 1928 г. № 4).

Шпакоўняў і дуплянак трэба нарабіць як мага больш.

**Агітацыйная работа.**

Праводзяцца спэцыяльныя гутаркі аб ахове птушак.

На ўсіх сходах (дзіцячых і дарослых) ставяцца кароткія даклады аб „Дні птушак".

Вельмі цікава падрыхтаваць выстаўку: плякаты, табліцы і дыяграмы аб значэньні птушак у сельскай гаспадарцы наогул, асобных відаў птушак—у прыватнасьці (каго зьнішчаюць птушкі, у якой колькасьці, якія расьліны асьцерагае птушка і г. д.).

Рыхтуецца плян саду ці гаю, дзе будуць разьвешаны дуплянкі і шпакоўні; лёзунгі і плякаты, рысункі розных дуплянак; малюнкі розных птушак, тыпы зімовых кармушак для птушак і г. д.

**„Дзень птушак".**

У вызначаны дзень усе дзеці з прыгатаванымі дуплянкамі, шпакоўнямі, плякатамі і лёзунгамі зьбіраюцца ў вызначаным месцы.

Сабраўшыся, падзяляюцца на групы, кожная група ідзе на свой вучастак, дзе і вывешваюцца на загадзя вызначаных месцах шпакоўні і дуплянкі. Разам з гэтым разьвешваюць дошчачкі з лёзунгамі аб ахове птушак.

Пасьля гэтай работы можна правесьці ранішнік з наступнай праграмай:

1. Некалькі кароценькіх, але жывых, цікавых дакладаў аб жыцьці птушак, аб іх значэньні ў сельскай гаспадарцы, аб іх карысьці ў садоўніцтве.
2. Даклад аб праробленай рабоце.
3. Інсцэніроўка на падыходзячую тэму.
4. Дэклямацыя і сьпевы.
5. Колектыўныя гульні.

**Стары Дзед.**

# САМАЗВАНКА



Лямпа устарэлая,
Моцна заржавелая
Ціха раз раняла сьлёзы
За дрывамі на падлозе.
— Я галодная,
Я халодная,
Кнот дашчэнту высыхае,
Шкло пыл едкі пакрывае.
А чаму?
Дык чаму-ж
Ідзе канец жыцьцю майму?
Я спаткалася нядаўна
З нейкай лямпай вельмі спраўнай...

— Ну і лямпа. О-ё-ёй!—
Сьвечак сто гарыць у ёй...
Гэта кажуць так другія,—
Але хай яна загіне,—
Гэта-ж лямпа—на сьмех курам.
Пузырок пад абажурам,
А ў сярэдзіне ў яго
Валаскоў са тры ўсяго
Ну-ж і лямпа—сьмех,—навінка!
— Пэўна, вы іншакраінка?
І цікава паглядзець,
Як вы будзеце гарэць?
Пузырок у вас зачынен.
Як-жа хто яго адчыніць,
Сьвет каб ваш ва ўсю зазьзяў?
А яна—
— Няма вам спраў!
— Ня люблю такой я зьявы:
Як-жа так—няма мне справы?
Дзесяць год я сьвет давала,
Сілу з кожным днём губляла,
Ня дымілася—яй права!—
Дык чаму-ж няма мне справы?
Ды пры гэтым гавару—
Я бяз мудрасьці гару.
Па старой і простай звычцы—
Толькі ткні агонь сярнічкі,
Дык пачну сьвятло я ліць.
Вас-жа трудна запаліць.
Вы, грамадзянка—
Самазванка!
Вы ня лямпачка, а шклянка!
А яна мне ў адказ:
— Эх, дурная баба.
Тоўсты кнот гарыць у вас
Надзвычайна слаба.

Загаруся-ж толькі я,
Дык ня скажаш—хмурна.
А за тым, што я радня
Бліскавіцы бурнай.

**Верш С. Маршака.**

# НАША ГАЗЭТА

№ 5 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 5


## АЧЫСЬЦІЦЬ 400 пудоў

*Вучні Вільшчынскае школы сялянскай моладзі ўзяліся за працу па падвышэньню ўраджайнасьці. Праведзены гутаркі сярод неорганізаваных дзяцей і вучняў прымітыўкі, дзе прымаліся пастановы, каб вучні ўгаварвалі сваіх бацькоў ачышчаць насеньне.*

*Канкрэтна намечана, каб піонэрамі было ачышчана насеньне на машынах ШСМ (Вільшчына) „Трыумф“ і „Трыер“ ня менш, як 400 пудоў сялян-беднякоў з наўкольных вёсак.*

*Ляўковіч Ул.*

(Вільшчынскі атрад ЮП)

## ЗАЦІКАВІЛІ СЯЛЯН

*З вучнямі нашае школы была праведзена гутарка агранома і настаўніка аб тым, дзеля чаго патрэбна зьбіраць попел і як яго ўжываць у сельскай гаспадарцы. Гэта было ў мінулым годзе.*

*Цэлую зіму мы зьбіралі попел. Увесну кожны вучань у сябе дома на невякікіх кавалках зямлі рассыпаў попел і пасьля садзіў агародніну: гуркі, моркаў, бручку і г. д.*

*Нашы вучні стараліся добра даглядаць свае градкі. Увосень, калі пачалі зьбіраць ўраджай з агародаў, дык агародніна на нашых узорных кавалачках зямлі была лепшая, чым ўсюды. Сяляне цікавіліся, як гэта мы ўжывалі попел; мы, вядома, ім аб гэтым расказалі. І ўжо ў гэтым годзе сяляне нашай вёскі не высыпаюць попел куды папала, а зьбіраюць ў скрынкі, каб увесну скарыстаць для агародаў.*

*Гайдукевіч Фёдар.*

в. Юрэвічы.

## ВЫСТУПІЛІ ДРУЖНА.

*Мы склікалі сход вучняў і піонэраў. На сходзе раённы аграном правёў гутарку аб падвышэньні ўраджайнасьці.*

*Ён расказаў, як савецкая ўлада клапоціцца аб большым ураджаі нашых палёў, што павінен зрабіць вучань-піонэр у сваёй гаспадарцы.*

*Мы парашылі арганізаваць пры школе сельска-гаспадарчы гурток, дзе-б можна было навучыцца, як гаспадарыць па-новаму. Кожны піонэр і вучань узяўся дома зьбіраць попел. Зрабілі пастанову, каб з самай вясны пры школе арганізаваць паказальны вучастак. Піонэр-атрады ў сваю чаргу далі заданьне зьвеньням, якія цяпер распачалі працу. Піонэры ўжо намалявалі лёзунгі і адаслалі ў тыя насельніцкія пункты, дзе ў гэты час працуюць трыеры.*

*Віктар С.*

Людзяневіцкая сямігодка,
Мазыршчына.

## ПОПЕЛ—У ВЁСКУ.

На ўсіх клясах нашай 1-ай сямігодкі былі праведзены гутаркі аб значэньні паходу, вялася растлумачальная кампанія ў насьценгазэце. Што-ж мы маем у выніку гэтага?

— Пачалі збор попелу, які раней выкідваўся бяз мэты. Гэты попел будзе захоўвацца ў скрынях і дасылацца ў вёску.

— Пасьпяхова ідзе збор сродкаў на закупку сельска-гаспадарчых машын для комсамольскага колгасу. У той час, калі кожнай школе дадзена заданьне сабраць па 5 рублёў на гэтую мэту, мы вызначылі сабраць 22 рублі.

**Вучань.**

Менск.

## *ПРЫВЯЛІ Ў ПАРАДАК САД.*

Доўгі час вялікі Койданаўскі сад знаходзіўся ў заняпадзе. Па садзе вольна гулялі козы і сьвіньні, грызьлі кару і карэньні дрэў.

Піонэры зьвярнулі ўвагу на гэтую безгаспадарчасьць, узьнялі хадайніцтва перад мясцовым саветам, каб сад аддалі піонэрам для нагляду. Атрымаўшы дазвол, мы ўзяліся прыводзіць сад у парадак: абкапалі, пабялілі дрэвы, абгарадзілі плотам і г. д.

Улетку мы атрымалі значны ўраджай фруктаў, сабраныя сродкі скарысталі на дапамогу бяднейшым вучням койданаўскіх школ.

Койданаўскі савет павінен замацаваць за намі і сёлета, каб мы, па прыкладу мінулага году, маглі даглядаць сад, зрабіць яго ўзорна-паказальным.

*Я.*

## ЛЁС ПІОНЭРСКАГА АГАРОДУ.

*Сьвіньні... Сьвіньні... Сьвіньні... Усё рыюць сьвіньні... Руйнуюць сьвіньні... Нішчацца градкі і клюмбы, якія былі зроблены піонэрамі і засеяны кветкамі.*

*Але колькі лягло тут піонэрскай працы—аб гэтым ведае толькі той, хто працаваў на гэтых градках.*

*Дзякуючы таму, што наш Зэмбінскі 31-ы атрад ня меў свайго агароду, дзе змог-бы практычна набываць веды па сельскай гаспадарцы, прышлося прасіць пустуючы агародзік пры саматужніцкім клюбе. Сяк-так выпрасілі...*

*Мінула два месяцы. Нашы кветкі зазелянелі і вельмі прыгожа зацьвілі...*

*Усё йшло добра, але праўленьне саюзу саматужнікаў, клюб якіх быў разам з піонэрскім, адабрала ад нас клюб, а разам з ім і маленькі агарод-палісаднік, у якім мы працавалі вясной. Што было пасьля з нашым агародчыкам, успамінаць ня будзем, аб гэтым мы напісалі ў пачатку допісу.*

*Гэта так было ў мінулым годзе...*

*Вярбовіч М. і Зомерфэльд Е.*

*м. Зэмбін, 31-шы атрад.*



Выгадавалі добрых сьвіней.

## ПАДВОИНАЯ КАРЫСЬЦЬ АД ПРАЦЫ.

*(в. Горнае, Плешчаніцкага раёну).*

Калі сельсавет аддаў у карыстаньне піонэрам і школьнікам вёскі Горнае пляц зямлі пад агарод, сяляне толькі ўсьміхаліся, казалі, што нічога з гэтага ня выйдзе.

— Сабак-бы ім па вёсцы ганяць, а не агарод даглядаць і сеяць. І чаго толькі сельсавет глядзеў?

Піонэры не пакрыўдзіліся ад гэтага, а шчыра ўзяліся за працу. Баранавалі і ўгнойвалі цаліну, засеялі яе ачышчаным насеньнем, абгарадзілі плотам, зьнішчалі шкоднікаў ды інш. Уся гэта праца рабілася пад кіраўніцтвам агранома, які ахвотна пайшоў насустрач.

Вынікі працы на агародзе прымусілі сялян зьмяніць свой погляд на тых, хто павінен быў „сабак па вёсцы ганяць“. Значнаму ўраджаю карняплодаў і іншых кармавых расьлін на нашым агародзе пазайздросьціў не адзін селянін.

Збор ураджаю на агародзе супаў з арганізацыяй у Горным колгасу яўрэйскіх земляробаў, якія мелі пільную патрэбу ў корме для жывёлы. Нядоўга думаючы, піонэры, якія працавалі на агародзе, парашылі перадаць колгасьнікам увесь свой ураджай.

Так мы прынесьлі сваёй працай падвойную карысьць: дапамаглі колгасу і паказалі ўсёй вёсцы, на што здольны тыя, хто быццам можа толькі „сабак ганяць“.

**Дзяткор.**

## ЗАПРАСІЛІ АГРАНОМА.

Гэтымі днямі ў Цэнтральным піонэрскім клюбе (Менск) адбыўся вечар, прысьвечаны паходу за ўраджай, на якім прысутнічала шмат піонэраў.

З дакладам аб значэньні павялічэньня ўраджайнасьці і мэтах паходу выступіў аграном, спэцыяльна запрошаны з Акрза. Ён азнаёміў нас з прычынамі нізкага ўраджаю ў БССР.

Акрамя таго, мы даведаліся аб пастановах апошняй сэсіі ЦВК СССР наконт уздыму ўраджайнасьці, бачылі на сцэне каласы хлебных расьлін, якія вырасьлі ад звычайнага і палепшанага насеньня.

Агранома закідалі пытаньнямі аб ролі колектывізацыі на вёсцы, коштце сельска-гаспадарчых машын, спосабах барацьбы са шкоднікамі, і г. д. На ўсе гэтыя пытаньні былі дадзены падрабязныя адказы.

З выступленьняў піонэраў мы даведаліся, што ў некаторых атрадах ужо вядзецца праца па паходу. Так, атрад політэхнікуму сабраў некалькі пудоў попелу, піонэры-чыгуначнікі закупілі для падшэфнага вясковага атрада сельска-гаспадарчую літаратуру ды інш.

Прысутны.

## ЗЬБІРАЕМ ПОПЕЛ.

**Мы вынесьлі пастанову: усім піонэрам весьці растлумачыцельную працу сярод сваіх бацькоў-сялян, каб яны ачышчалі сваё насеньне. Акрамя гэтага, парашылі, каб кожны піонэр зрабіў скрынку і сыпаў туды попел. Пасьля таго, калі попелу зьбярэм досыць шмат, дык вясною зробім свой піонэрскі агарод.**

**Шмат якія піонэры ўжо прыступілі да гэтай справы. Попел, які ў вёсцы ня лічаць за ўгнаеньне, скарыстаем для павялічэньня ўраджайнасьці—вось лёзунг кожнага піонэра.**

**Піонэр А. Л.**

в. Кабыльля, Ляднянскага р., Аршаншчына.

## ТАННУЮ І КАРЫСНУЮ КНІГУ СЕЛЯНІНУ.

(Капыль, Меншчына).

Вучні Капыльскае сямігодкі добра зразумелі, якую карысьць дае селяніну кніга. Яшчэ ў пачатку вучэбнага году мы актыўна ўзяліся пашыраць кнігі. Кнігі мя бярэм у сваёй коопэрацыі. Вясковыя вучні, ідучы ў суботу дахаты, заходзяць у магазын і бяруць па 10—15 кніг. Кнігі бяруць на розныя тэмы па сельскай гаспадарцы, па палітыцы, па літаратуры і інш. Усе гэтыя танныя кнігі вясковыя вучні і прадаюць у сваіх вёсках.

За ўвесь час нашымі вучнямі прададзена 600 кніг.

Кніга пачынае карыстацца павагай з боку сялян.

Шырэй дарогу кнізе. Кніга—біч цемнаты, някультурнасьці! Вучні другіх школ, бярэце прыклад з капыльскіх вучняў.

*І. Лінскі.*



**Шум і крык ля саду**
**Носіцца бяз меры...**
**Сустракаюць птушак**
**Гэтак піонэры...**
**А ці-ж сустракаюць?—**
**Толькі іх пужаюць...**

## Будзе адчынена с.-г. дзіцячая станцыя.

*Да гэтага часу дзіцячыя сельска-гаспадарчыя гурткі, атрады і школы, якія маюць свае сады, агароды і вучасткі, ня мелі ніякага кіраўніцтва, ня ведалі, як працаваць.*

*Улічваючы гэта, Менакрбюро ЮП узьняла хадайніцтва перад Наркамземам аб адчыненьні ў Менску дзіцячай сельска-гаспадарчай станцыі. Наркамзем згадзіўся з думкай аб адчыненьні такой станцыі.*

## ГІСТОРЫЯ ДЗЬВЮХ СЯСЬЦЁР.

Было гэта пасьля грамадзянскае вайны, у лютую зіму. У старой раскіданай хаце поўзалі дзьве сіроткі, якія чакалі сваёй мамкі. Але ўсё гэта было дарэмна, маці іх ужо тры дні як ляжала ў магіле; бацька дзяцей таксама ня вернецца, бо ў часе вайны іхні бацька быў забіты.

Вядома, што яны асталіся сіроткамі. Ня было ў каго папрасіць ні піць, ні есьці. Яны былі зусім малыя, нават не маглі выйсьці з тае вуліцы, на якой яны жылі. Яны ужо 5-ты дзень як сядзяць галодныя і халодныя.

Старэйшай сястрыцы было ўсяго 7 гадоў, а малодшай 5 гадоў. Малодшая сястрыца была заўсёды хваравітая, а цяпер дык і зусім захварэла.

І вось старэйшая сястрычка пашла прасіць па міласьці. Зіма была халодная. Час ішоў павольна. Нашы сёстры толькі тым і жывіліся, што калі-небудзь старэйшая сястрычка прынясе які кавалачак хлеба, або і зусім нічога ня елі, а дрыжэлі з голаду і холаду.

Аднаго разу яны пачулі нейкія крокі каля самага вакна. Нейчы грубы голас сказаў: „гэта, мабыць, тая самая хата, у якой жыве Заслаўскі“. Не пасьпелі сястрычкі схавацца, які ў хату ўвайшлі два чалавекі. Адзін з іх быў загадчык дзіцячага дому, а другі—кіраўнічы дзяцей.

**М. Чарнушэвіч.**



# ШТО РОБЯЦЬ ПІОНЭРЫ МЕНШЧЫНЫ.

У паходзе за ўраджай Менакрбюро ЮП высоўвае перад усімі атрадамі і школамі цэлы шэраг практычных заданьняў.

Кожны атрад і школа павінны сыстэматычна зьбіраць попел і дасылаць яго ў падшэфную вёску. Выканаўшым заданьне будзе лічыцца той атрад, які за час паходу зьбярэ попелу ня менш, як 5 пудоў.

Атрады колектыўна будуць купляць бібліатэчкі с.-г. літаратуры для вясковых падшэфных атрадаў. З гэтай літаратурай павінны будуць азнаёміцца і гарадзкія піонэры, рабіць сваімі сілами шпакоўні і дасылаць іх у падшэфныя вёскі.

Намечана організаваць каманду піонэраў-лыжнікаў і зрабіць вылазку ў ваколічныя вёскі, дзе правесьці з сялянамі гутаркі аб ураджайнасьці, пашырыць сярод іх с.-г. плякаты і лятучкі.

Акрза вылучае аграномаў для кансультацый гарадзкім атрадам у часе паходу. Атрады, якія шэфствуюць над тымі вясковымі атрадамі, што маюць свае паказальныя агароды, атрымаюць для іх дармовае насеньне ў Цэнтраземскладзе.

Сярод піонэраў і школьнікаў абвяшчаецца збор сродкаў на закупку трыера, веялкі і іншых машын для ўзорнага комсамольскага колгасу. Кожны атрад і школа павінны сабраць ня менш 5 рублёў на гэтую закупку.

Цэнтральны піонэрклюб рыхтуе сельска-гаспадарчую выстаўку.

Паміж Барысаўскім, Фрунзэўскім і Кастрычнікаўскім раёнамі абвяшчаецца конкурс з прэміямі за лепшае правядзеньне паходу. Лепшы па сельска-гасп. рабоце вясковы атрад атрымае ад Акрбюро трыер.

Пры Райбюро ЮП гораду ўтвараюцца групы „лёгкай кавалерыі“, якія будуць сачыць за тым, як працуюць атрады ў паходзе. Будзе таксама наладжана экскурсія ў прыгарадныя колгасы і саўгасы.

Павадыр.

# РУШЫЛІСЯ Ў ПАХОД.

*Райбюро Ю. П. Плешчаніцкага раёну правяло піонэрскую конфэрэнцыю, прысьвечаную паходу за ўраджай, на якой прысутнічала 197 дэлегатаў.*

*На конфэрэнцыі делегаты паведамілі аб тэй сельска-гаспадарчай працы, якую праводзяць атрады і школы.*

*У самым мястэчку фарпост мясцовай школы дабіўся ад райвыканкому дазволу заняць пляц зямлі пад сад. На гэтым пляцы пасадзілі звыш 50 прышчэпаў яблык, груш, сьліў. Сад абгарадзілі, абкапалі, угнойвалі, і сёлета ўжо чакаем ураджаю фруктаў. Атрымана таксама фарпостам зямля і пад агарод.*

*Крайскі і Каменскі вясковыя атрады організавалі з дапамогай комсамольскай ячэйкі колектыўную куплю насеньня для пасеўнай кампаніі ў крэдытным таварыстве.*

*Сярод піонэраў і вучняў праводзіцца збор сродкаў на закупку плугоў для мясцовых колгасаў.*

*Піонэры, якія працуюць у якасьці вучняў у мясцовых кузьнях, організаваліся ў спэцыяльную брыгаду для выезду ў вёскі рамантаваць сельска-гаспадарчыя прылады.*

*Камароўскі і Харавічскі атрад рыхтуюць жывую газэту, прысьвечаную агітацыі за ўраджай; газэта будзе паказана перад сялянамі ў Нардоме.*

*На канфэрэнцыі выявілася, што па ўсім раёне школы і атрады маюць звыш 100 дзесяцін садова-агароднай зямлі, якая часта здавалася ў арэнду. Конфэрэнцыя выказалася за тое, каб уся гэтая зямля была засеяна выключна піонэрамі і вучнямі, каб на гэтай зямлі закладаць паказальныя вучасткі.*

З.



# ХТО АТРЫМАЕ ПРЭМІЮ.

Райбюро ЮП Фрунзэўскага раёну (Менск) абвясьціла конкурс паміж атрадамі і школамі на лепшае правядзеньне паходу за ўраджай.

Прэміі лепшым атрадам і школам, якія выявяцца ў часе паходу, вылучаны наступныя: радыёпрыёмнік з дэтэктарам, гульня „пінг-понг“ з усімі прыладамі і г. д.

# Зьбіраем сродкі для вёскі.

**Для збору сродкаў на закупку для падшэфных вёсак гатунковага насеньня сельска-гаспадарчых прылад і літаратуры райбюро ЮП раіла наладзіць па атрадах і школах платныя вечары і ранішнікі.**

**Такія вечары і ранішнікі праводзяць у сябе на працягу сакавіка месяца наступныя атрады: будаўнікоў, харчавікоў, працасьветы, страхкасы і політэхнікуму.**

**Піонэры атраду працмастацтва наладзяць платныя кіно.**

**Піонэр.**

# РЫХТУЕМ КАРНАВАЛ.

Азнаёміць прыяжджаючых у Менск сялян з асноўнымі лёзунгамі паходу за ўраджай—вось задача, якую сабе паставілі атрады базы політэхнікуму і заводу „Комунар“.

Для гэтага вызначылі правесьці наступнае мерапрыемства: організаваць у кірмашныя дні на рынках дэмонстрацыю, карнавал і лятучыя мітынгі, у якіх знойдуць свой адбітак лёзунгі паходу.

Зараз рыхтуюцца адпаведныя лёзунгі і плякаты для дэмонстрацыі і карнавалу.

# ЛІСТ ШУСТРАМУ ВОЖЫКУ.

*Добры дзень, Вожык!.. Пажадаю,*
*Каб не змаўкаў ніколі ты,*
*Бо я з прыемнасьцю чытаю*
*Твае цікавыя лісты.*

*Пішы, калі і падбухторвай!*
*Твае калючкі—на карысьць!*
*Працягвай з палкасьцю паўторнай*
*Такіх-жа злосьнікаў караць.*

*Ня выпускай пяра і ручкі,*
*Але й калючак не забудзь...*
*Твае кіпцюрыкі й калючкі*
*Багаты плод пасьля дадуць.*

*Яшчэ раз вітань!*
*Шустры—вожык,*
*Не пакідай калоць, пісаць,*
*А там і я, часамі, можа,*
*Змагу табе дапамагаць.*

**„Пётрык-Цыганёнак“.**

На прыгуменьні.



*Мал. А. ТЫЦЫНЫ з сэрыі „Беларуская Вёска“.*

# ПРЫШЧЭПЫ МОЖНА ВЫРАСЬЦІЦЬ САМОМУ

*(З майго вопыту).*

Прыродныя ўмовы нашай старонкі, можна сказаць, спрыяюць росту фруктовых дрэў: яблынь, груш, сьліў і інш.

Але для разьвядзеньня саду трэба патраціць шмат грошай на прышчэпы.

Паўстае пытаньне: няўжо-ж самому нельга разводзіць прышчэпаў?

Вядома, можна.

Папершае, трэба падшукаць добрае месца. Пасьля гэтага трэба угнаіць глебу кампосным угнаеньнем (адбросы касьцей, залы, ануч і інш.). Самую глебу трэба ўскапаць прыблізна на штых рыдлёўкі таўшчынёю, зямлю трэба разьбіваць на дробныя камячкі. Пасьля гэтага трэба загарадзіць пітомнік і засеяць.

Насеньне бярэцца з добра дасьпелых яблыкаў, якія ўпалі з дрэва.

Захоўваць насеньне на зіму трэба ў пяску (прыблізна на адну шклянку насеньня—дзевяць шклянак пяску (сухога). Насеньне ня трэба хаваць у цяплыні, бо ад вялікай тэмпэратуры зьнішчыцца зародак.

У красавіку месяцы трэба сеяць. Звычайна бывае так: возьме селянін і праткне пальцам зямлю, а потым укіне туды насеньне. Ад гэтага бывае, што насеньне ня можа прабіцца ўверх, і гіне. Раіцца рабіць так: праводзіць чым-небудзь барозны сантымэтраў 7 глыбінёю, а потым сеяць насеньне, пасьля чаго з двух бакоў засыпаць зямлёй.

За маладзенькімі ўсходамі трэба пільна сачыць. Зьнішчаць траву, якая расьце каля дрэўцаў, зьнішчаць тыя сучкі, якія знаходзяцца каля самай зямлі, падварушваць глебу, каб праходзіла паветра.

У засушлівае лета трэба паліваць ня зусім халоднай (летняй) вадой дрэўцы. Можна ваду зьмешваць з навознай жыжкай і гэтым паліваць. Паліваць заўсёды трэба або раніцай, або ўвечары.

Зімою трэба дрэўцы выкапаць і палажыць іх каранямі ў знарочыстую канаўку, якую зьверху абсыпаюць шпількамі хваёвага дрэва і гэтым самым абараняюць карэньні ад мышэй. Карэньні абсыпаюць зямлёй, і дрэўцы гэтак зімуюць.

Вясной дрэўцы зноў садзяць у зямлю, даглядаюць. Калі пройдзе гады 2—3, дрэўцы прышчэпліваюць. Калі дрэўца пачынае борзда расьці ўверх, тады верх зрэзваецца, і яблынька, як кажуць, павялічвае крону.

Сродкаў для гэтай работы ніякіх ня трэба, патрэбны толькі дагляд, жаданьне і праца.

Піонэр-дасьледчык
**Ал. Ландарскі.**

## МАШЫНУ—НА СЯЛЯНСКАЕ ПОЛЕ.

Паход за падвышэньне ўраджайнасьці нашых палёў цесна зьвязаны з укараненьнем у сялянскую гаспадарку сельска-гаспадарчых машын і прылад, якія значна палягчаюць працу селяніна. Саха лепшага ўраджаю ня дасьць.

Вось чаму абавязак кожнага вясковага піонэра — растлумачыць сваім бацьком карысьць сельска-гаспадарчых машын і быць ініцыятарам іх набыцьця. Для гэтага піонэры павінны быць знаёмы з цаной некаторых машын і ўмовамі іх закупкі.

Продаж сельска-гаспадарчых машын па вёсцы праводзіцца выключна праз сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы. Беднаце гэтыя машыны адпускаюцца ў крэдыт на пэўны тэрмін.

Такія машыны, як трактар, трыер, сэпаратар ды інш., каштуюць дорага, маюцца ў абмежаваным ліку, ня могуць быць скарыстаны ў асобных гаспадарках, і адпушчаюцца дзеля гэтага выключна колгасам, с.-г. арцелям, таварыствам па супольнай апрацоўцы зямлі. Кошт трыеру вызначаецца ў 220 рублёў, сэпаратара ад 48 да 200 руб., малатарні—92 руб., сартыроўкі—75 руб., веялкі—50 рублёў і г. д.

А ўжываньне гэтых машын дае гаспадарцы значны прыбытак, павышае ўраджайнасьць зямлі, якасьць ня толькі самога ўраджаю, але і іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў.

*Машынізацыя сельскай гаспадаркі, аб'яднаньне сялян ў вытворча-зямельныя колектывы—вось найбольш пэўны шлях да ўздыму ўраджайнасьці.* Гэта вясковыя піонэры павінны добра памятаць і ўмець сваім бацьком растлумачыць.

Але гэта не выключае магчымасьцяй павялічэньня ўраджайнасьці ў паасобных сялянскіх гаспадарках. Ужо ня кажучы аб ужываньні ўгнаеньня і палепшанага насеньня, якое будзе з сакавіка прадавацца ў вясковай сельска-гаспадарчай коопэрацыі, бядняцкія гаспадаркі могуць атрымаць у крэдытных таварыствах на ільготных умовах і з растэрміноўкай наступныя машыны:

Плугі, коштам да 10 руб., пры пакупцы якіх уносіцца задатак 2 руб. 50 к., астатнія выплачваюцца ў гадовы тэрмін.

Бароны, кошт да 10 руб., пры пакупцы якіх уносіцца задатак 50 проц., астатнія выплачваюцца ў працягу году.

Сячкарні—кошт да 100 руб., пры набыцьці якіх уносіцца задатак 25 руб., рэшта выплачваецца за 2 гады.

Веялкі і сартыроўкі—кошт да 125 руб., з растэрміноўкай на 2 гады пры задатку 25 проц. і г. д.

Што датычыцца насеньня звычайнага і сартавога, дык яно будзе прадавацца бядняцкім гаспадаркам, але ў крэдыт, як мы ўжо адзначылі—толькі з сакавіка.

---

**Каб сьмялей ляцеў птушыны**
**вырай,**
**На гароды нашыя, на гоні—**
**Спатыкаць мы птушак выдзем**
**З тысячамі новенькіх шпакоўняў.**

# ДАРМАЕДАУ: БЛАГУЮ ТРАВУ, МЫШЭЙ і КАЗЯВАК—ВОН З ПОЛЯ!

У піонэр-клюбе было шумна, як ніколі. Сабралася туды многа дзяцей — піонэраў і не-піонэраў. Яны чагосьці чакалі.

У дзьвярах паказаўся пажылы чалавек з партфэлем.

— Прышоў, прышоў!—пачуліся галасы.

— Таварышы, прашу заняць месцы і супакоіцца,—сказаў Юрка—піонэр, старшыня сельска-гаспадарчага дзіцячага гуртка.



Смоўж.

Усе супакоіліся. Юрка працягваў: „мы, таварышы, парашылі правесьці некалькі гутарак на сельска-гаспадарчыя тэмы дзеля таго, каб вы, таварышы, перад пачаткам працы ў полі ўзброіліся агранамічнымі ведамі і...“

— Хопіць, не агітуй! ведаем,—пачуліся галасы.

— Бліжэй да справы,—сказаў Алесь.

— Дык я, таварышы, бліжэй да справы. Сягоньня аграном, т. Амяльянчык, правядзе з намі гутарку аб шкодніках нашых палёў і як з імі змагацца. Тав. аграном, калі ласка, пачынайце.

— Вам ужо сказалі пра тэму маёй гутаркі...

„...Кожнаму з вас вядома, што ад шкоднікаў палёў сяляне кожны год маюць вялікія страты. Мышы, смаўжы і шмат усялякіх казюлек і чарвякоў жывуць нахлебнікамі ў нашага гаспадара.

Найбольш шкоднікаў у сельскай гаспадарцы сярод казюлек. Казюлькі ў сваім разьвіцьці маюць розныя выгляды і па рознаму шкодзяць...“

— Якая там шкода ад казюлек?—пачуўся голас.

— А вось убачым, толькі не перашкаджайце... Дык вось, каб хоць трохі ведаць, як жыве казюлька, прагледзім разьвіцьцё капуснага матылька. Некаторыя з вас мо' думаюць, што беленькі матылёк, які ў цёплы дзень лётае над капустай—гэта адно, а капусны чарвяк (вусень)—гэта зусім другое. А гэта ня так: падросшы, чарвяк заўсёды перарабляецца ў капуснага матылька. Матылёк кладзе на споднім баку ліста кучкамі яечкі, штук па 40—60 і больш. З яечкаў выходзяць чарвячкі. Праз некалькі дзён чарвячкі вырастаюць і становяцца пражэрлівымі шкоднікамі капусты. Чарвякі праз некаторы час зварочваюцца ў куканчык, а з куканчыка вылупліваюцца праз 2-3 дні матылькі, якія пачынаюць зноў лётаць над агародам і класьці яечкі; з яечак выходзяць чарвячкі і г. д.

Потым далей... На нашых палёх ёсьць шмат розных мышэй, якія вельмі шкодзяць сельскай гаспадарцы. Здавалася-б, што невялічкая рыжаватая мышка, з доўгім хвастом, чорнай палоскай на сьпіне, не павінна вельмі шкодзіць нашаму гаспадару, але якраз выходзіць наадварот.

Гэта мышка завецца жытнай. А ёсьць яшчэ другі шкоднік—мышка-палёўка. У палёўкі поўсьць сівая, ногі і жывот белыя, а хвост кароценькі. Плодзяцца палёўкі надта хутка. За лета самка-палёўка выводзіць 30—40 мышанят. Гэтыя мышы прыносяць шмат шкоды. Вясной палёўкі ядуць зялёніва ад рознага збожжа, а пад восень кормяцца зярнятамі...

— А як змагацца з імі?—запытаўся Міхась?

— Я толькі думаў аб гэтым гаварыць,—сказаў аграном.

Лепш усяго труціць мышэй „мышыным тыфусам“. Мыш, калі зьесьць зерня ці камячок цеста з гэтай атрутай, дык здохне.

Акрамя мышэй, шкодзяць нашым гаспадаркам і смаўжы. Смоўж зьядае розныя зялёныя расьліны, усходы жыта, бульбу, капусту і іншыя агародныя расьліны. Смаўжы распладжваюцца толькі ў мокрыя гады; значыць, калі ідуць адзін за адным два мокрых гады, дык трэба рыхтавацца да змаганьня з гэтымі шкоднікамі. Шмат смаўжоў зьнішчаецца птушкамі, асабліва крумкачамі. Апрача птушак, іх зьнішчаюць жабы. Але птушкі і жабы ня могуць зьнішчыць усіх смаўжоў, бо яны плодзяцца ў вялікай колькасьці. Трэба змагацца з гэтым шкоднікам самім. Смоўж вельмі любіць паласавацца рэпкай. Дзеля гэтага на хлебных палёх можна засеяць кавалачак зямлі рэпай; на гэту рэпу—прыманку—смаўжы будуць спаўзацца, дзе іх хутчэй можна зьнішчыць. Можна нішчыць смаўжоў і іншымі спосабамі: звычайнай сольлю, жалезным купарвасам і сьцёртай на муку вапнай.

Купарвасам можна карыстацца гэткім чынам: на вядро вады патрэбна 3 фунты купарвасу. Купарвас разводзіцца ў вадзе, і гэтай вадой трэба апырскваць маладое жыта, на якім ёсьць маленькія смаўжы.

— А якія гэта чэрві на палёх былі гадоў 6 таму назад?—запытаў Алесь.

— А гэта быў „ільняны чарвяк“—вусень матылка „ільняной соўкі“. Гэта вялікі страшэнны шкоднік; зьяўляецца ў некалькі гадоў адзін раз і распладжваецца ў вялікім ліку. Гэты чарвяк у 1922 г. сапсаваў ільну на некалькі мільёнаў рублёў. Акрамя ільну, гэтыя чэрві псуюць малады гарох і іншыя расьліны. Змагацца з гэтым шкоднікам трэба наступным чынам: патрэбна глядзець, каб у агародзе і полі ня было пустазельля, бо „ільняная соўка“ кладзе свае яйкі перш за ўсё на пустазельлі. Калі на вырваным пустазельлі ёсьць шмат матыльковых яек, то трэба ўсю выпалатую траву, злажыўшы ў кучу, абсыпаць зямлёй, каб яйкі матылька згнілі. Другое мерапрыемства—гэта васеньняе раньняе ворыва палёў, ад чаго чарвякі за зіму гінуць. Калі-ж чэрві ўжо зьявіліся, дык трэба бараніць не занятыя чарвяком пасевы адзьнішчэньня. Гэта можна зрабіць абкапваючы поле канавай. Можна таксама страсаць чарвей сачкамі або мяшкамі.

Нямала шкоды прыносіць культурным расьлінам начны матылёк, які завецца „жытняй соў-



Гірса.



Куколь.

кай". Яйкі свае гэты матылёк адкладае на лебяду, асот і іншае пустазельле. Гэтыя чэрві зьядаюць лісьце жытніх усходаў, а потым і карэньне. Аб'едзеныя ўсходы пачынаюць заміраць, ад чаго на полі робяцца чорныя лапіны. Першым змаганьнем з гэтым шкоднікам павінна быць зьнішчэньне пустазельля ў полі, бо калі ня будзе пустазельля, тады ня будзе дзе матыльку класьці яек. Сотні дзесяцін зямлі ў нашых вёсках заняты межамі, а на межах расьце пустазельле. З гэтай прычыны межы, пры існуючых формах зямлякарыстаньня, зьяўляюцца добрымі прытулкамі для жыцьця „жытнай соўкі". Гэтыя шкоднікі могуць перапаўзаць з месца на месца. Ад напаўзаньня шкоднікаў можна абараніцца іншым спосабам. Патрэбна абкапаць поле невялічкай канаўкай. Трэба старацца, каб берагі канаўкі былі крутыя — вось як гэта паказана на малюнку. Зямлю трэба кідаць на той бок канаўкі, адкуль будуць паўзьці чэрві.

Вялікую шкоду ў гаспадарцы прыносіць і пустазельле. Пустазельле трапляе часамі ў сьвіран разам з збожжам, а потым і ў хлеб, які робіцца ад гэтага атрутным, нясмачным і чорным. Але сялянін і ня ведае, чаму гэта, і ня хоча ведаць, а гаворыць: „які год, такі й плод", „бог так даў" і г. д.

Зразумела, што і ад году залежыць ураджай, але не ў такой меры, як пра гэта думаюць гаспадары. Гаспадар мае магчымасьць гэту залежнасьць ураджаю ад „бога" зьнішчыць. Трэба толькі аб гэтым думаць і клапаціцца. Калі гаспадар ня зьнішчае пустазельля, дык гэтым сам сабе шкодзіць.

Самыя шкодныя пустазельныя расьліны наступныя:

*Гірса* часьцей за ўсё засьмечвае жыта і бывае, што на яе долю прыходзіцца палова ўраджаю. Насеньне гірсы і дробнае насеньне жыта аднолькавае па велічыні і вазе, затым і трэба ачышчаць збожжа на машыне, бо іначай ад гірсы не пазбавішся.

Гірса зьнікне сама сабой, калі гаспадар будзе:

1. Правільна апрацоўваць глебу, асабліва ў папары.

2. Пачне сеяць на полі бульбу.

Другая расьліна-шкоднік—гэта *„куколь"*. Гэта пустазельле спатыкаецца ў азімым жыце, часьцей у пшаніцы. Прымешка кукалю да хлеба вельмі шкодна ня толькі людзям, але і жывёлам. Барацьба з кукалём праходзіць шляхам:

1) выполваньня яго рукамі, бо на пасевах яго ня вельмі многа.

2) добрай апрацоўкай папару і

3) ачысткі насеньня ад кукалю на асобных сартыроўках—кукаляадборніках.

Больш танным спосабам ачысткі насеньня, напрыклад, аўса, ад кукалю зьяўляецца затапленьне насеньня ў кадушцы з вадой; кукаль, які больш цяжкі, пойдзе на дно кадушкі, авёс-жа ўсплыве наверх. Але, калі нам трэба ачысьціць насеньне, вага якога роўна вазе кукалю—гэты спосаб мала прыгодны.

*Званец* большай часткай засьмечвае пасевы збожжа. Сустракаецца ён і на сенажаці.

Меры барацьбы з ім наступныя:

1) ачыстка насеньня на сартыравальных машынах, 2) поліва і 3) добрая апрацоўка папару.

*Пырнік* таксама прыносіць шмат шкоды.

Ён зьнішчаецца: 1) пры добрай апрацоўцы папару і частым яго скароджаньні, 2) пры пладазьменным чаргаваньні расьлін напалёх і 3) пры правільным севазвароце з бульбай і буракамі.

Але толькі адной барацьбой з шкоднікамі палёў ўраджайнасьці вельмі не падымеш. Трэба зямлю яшчэ ўгнойваць. Гною-ж у нас не асабліва многа. Вось сягоньня я думаю пагутарыць з вамі аб тым, як і чым угнойваць агарод і поле, калі гною і мінэральных тукаў не хапае.

Дзеля ўгнаеньня можна ўжываць *птушыны памёт,* які па складу спажыўных частак у 5—6 разоў мацней за лепшы гной. Толькі яго трэба добра захоўваць, бо інакш каштоўныя часткі яго выпятраюцца і гінуць без карысьці. Птушыны памёт лёгка сграецца і пры гэтым траціць найбольш каштоўныя спажыўныя часткі. Дзеля гэтага ў катухох, дзе трымаюць птушак, трэба раз на тыдзень птушыны памёт пасыпаць тарфяной зямлёй. Лепш за ўсё, калі мы будзем даставаць з катуха птушыны памёт і складаць яго роўным пластом на кампоснай кучы, або рабіць з яго жыжкавае ўгнаеньне, якое непасрэдна можна падліваць пад расьліны. Найбольш каштоўным зьяўляецца памёт галубоў, індыкоў і курэй. Гусінага і качынага памёту сьвежага ўжываць нельга, лепей яго складваць у компосныя кучы і ўгнойваць перамешаным з кампостам.

*Тарфяная зямля* таксама зьяўляецца карысным угнаеньнем. Тарфяной зямлёй называюць і тарфяную асыпку, што застаецца на тых мясцох, дзе складваюць штабелі торфу, а таксама і паверхоўны пласт тарфяных пляцоў і так званую балоцістую чорную



*Званец.*



Як выглядаў першы трактар у сьвеце.

зямлю. Для ўгнаеньня можна карыстацца кожнай з пералічаных тарфяных земляў,—усе яны зьяўляюцца найлепшым матар'ялам для ўгнаеньня палёў і агародаў. Калі загатаўляць кампост з птушынага памёту і інш., дык тарфяная зямля зьяўляецца самым найлепшым падсобным матар'ялам для гэтага; вось чаму трэба назапасіць, як найбольш тарфянай зямлі і торфу.

Але трэба памятаць, што гэты матар'ял мае шмат шкодных квасаў; каб іх зьнішчыць, трэба загадзя набываць тарфяную зямлю, даць ёй добра прамерзнуць, правятрыцца, пасьля чаго тарфяная зямля можа ўжывацца, як самае лепшае ўгнаеньне. Запасаюць торф так: здымаюць пласт таўшчынёю на ўвесь штых рыдлёўкі і складаюць невялічкімі кучкамі, каб яны скарэй высахлі і пабылі пад сонцам, ветрам і марозам.

— А казалі, тав. аграном, што можна ўгнойваць і попелам?—спытаўся Алесь.

— Так. Можна ўгнойваць *попелам* і *сажай*. Дзеля гэтага трэба старацца назьбіраць попелу як мага болей і трымаць яго ў сухім месцы, каб ён ня мок, бо намочаны попел ня мае ніякай вартасьці, як угнаеньне. Попел найбольш карысным зьяўляецца для бульбы кораньплодаў і лёну. Калі прадбачыцца сухмень, то попел трэба класьці ўвесну як мага раней, каб даць яму магчымасьць расчыніцца. Найбольш карысны попел ад саломы і ліставых дрэў. Выгадней за ўсё яго зьбіраць асобна, не ў кампосьце, бо нават невялічкая яго колькасьць можа даць вялікую карысьць. Попелу трэба на дзесяціну пудоў сто, а на граду фунтаў дзесяць, сажы таксама. Сажа яшчэ больш каштоўнае ўгнаеньне. Яе трэба захоўваць, каб ужываць толькі для важнейшых культур. Дзеля гэтага сажу пасьля ачысткі камінаў трэба зьбіраць, ссыпаць у скрынкі і захаваць у сухім месцы.

*Гразь з дарог* таксама можна ўжываць, як угнаеньне. Гразь трэба зьбіраць у кучы, і калі кучы трохі падсохнуць, іх звозяць у сядзібу. Гэты матар'ял можна скарыстаць двума спосабамі: угнойваць ім агарод ці поле або дадаваць у кампосныя кучы. Лепш за ўсё гэта рабіць увесну, калі зямля мёрзлая, а гной знаходзіцца зьверху.

Для сховы торфу, гразі і г. д. трэба рабіць паветку. Вось і ўсё.

Гутарку запісаў **М. М-ч.**

# ПАКАЗАЛЬНЫ АГАРОД КАПЕЙКІНА.

Ажно 60 гадоў пражыў мой бацька. Стары, значыцца. Ну, а калі стары, то ў яго і старыя думкі і норавы.

Чытач ціхусенька ўсьміхнецца, напэўна. „Што ты патыкаеш нам пра свайго бацьку? А дзе-ж пра паказальны агарод?“ Выбачай, шаноўны таварыш, я не здарма ўспомніў свайго бацьку.

Значыцца, бацька мой стары. Ты яму пра культурную рэволюцыю гавары, а ён:

— Адчапіся, я ўжо стары!

А павадыр наш, Нязнай, так і сказаў нам: змагайцеся, не папускайцеся нікому! Іншыя, праўда, не зразумелі яго. Упарта змагаліся паміж сабою (біліся, значыцца) або не папускаліся ў крыўду паганаму Келму.

Я дык зразумеў добра і пачаў змагацца, ня крывячы тэй лініі, якую высоўваў Нязнай.

* * *

Летась, зімою, я часта ляжаў з бацькам на печы. Ну, а тут самы лепшы момант для змаганьня. Бацька мой пра гора сваё пачынае гаварыць: хлеба мала і г. д. А я і пачынаю рабіць даклад аб паляпшэньні ўраджайнасьці. Тлумачу, прыводжу розныя прыклады. А яму хоць што!..

— Пацук ты яшчэ,—кажа ён і пакурвае люлечку.—Слаба твая гайка мяне вучыць. Я па крайняй меры шэсьцьдзесят гадоў пражыў. Пятнаццаць барон дзеравяных зламаў за век свой, а ён яшчэ мяне вучыць сабраўся.

Пасьля такой канкрэтызацыі я ўжо маўчу. Маўчу, і бацька мой маўчыць. Маўчыць і люлечку пакурвае, а часам дадасьць:

— Пацук, аграномаў патыкае мне...

І ўспамінаю я Нязная. Вось ён—стаіць на стале і робіць даклад. „Трэба паляпшаць ураджайнасьць!“—гаворыць ён.

А сам не захацеў організаваць паказальнага агароду. Няма, кажа, дзе.

Такія людзі, як мой бацька (а ў нашай вёсцы ўсе такія), не памацаўшы, не паверацсь.

Трэба дзейнічаць інакш.

Зараз вясна. Час не чакае.

Ну, так і быць. Пачну змагацца інакшым шляхам. Даклады трэба здаць у архіў.

* * *

У вёсцы, дзе я жыву, ёсьць школа. Добрая школа. Нават бацька мой пахваліў яе, ідучы з вясельля. (Каля школы якраз ішоў, а так, дык ніколі ня бывае тамака).

Ну, а пры школе ёсьць і вучастак зямлі. Бедны гэты вучастак. Пустуе. Зарос лопухам і палыном. Нікога тут ня ўбачыш,



Трактар цяперашняга часу.



акрамя настаўнікавага сабакі Келмы і Янкавай сьвіньні Румзы, якую нашы піонэры празвалі скрыпкай (худая, падла). Пустуе вучастак.

І вось чыкіляю (іду, значыцца) я гэтак раз на збор атраду. Чыкіляю і думаю:—што гэта будзе з нашымі дакладамі? Як гэта даказаць старым, што аграномы праўду кажуць. І толькі, калі я ўзышоў на школьны пляц і ў нос, як дзёгцем, стукнула пахам сьмярдзючага палыну, я ўзрадаваўся. Чаго? запытаеце вы. А вось паслухайце.

Прыбег у клюб.

— Браточкі, вы ня бачыце?!. Сьляпыя, ці што? Паглядзеце ў вакно, што гэта там?

Адразу не зразумелі і—да вакна. Што? што?

Ага! не дагадваецеся!?

Я гэта за каўнер Нязная і—ну—за мною.

Ён загарачыўся.

— Я на савет атраду!..

— Стой! Ня брыкайся!

Вывеў на ганак:

— Чуеш, што сьмярдзіць?

— Мусіць, палын.

— Ага, мусіць? А ты ня бачыў да гэтага? А паказальны агарод!? Месца няма? Настаўнік казаў нешта рабіць тут будзе?—Я гэта сумысьля ўспомніў сёньня, бо бачу, што настаўнік нічога ня будзе рабіць. Сёньня-ж—ліпень.

Нязнай маўчаў. Потым сагнаў нас з ганку, і, стаўшы вышэй усіх, сказануў, што на будучы год організуем паказальны агарод. Ідучы да дому, я ажно падскакваў ад радасьці. Дакараў Нязная, а ён ад злосьці чуць не пляваўся.

* * *

Гэта было яшчэ ў 1927 годзе, а агарод мы заснавалі летась.

Вы мо' думаеце, што гэта так лёганька было зрабіць, як гэта пішацца? Наадварот. Гэта-ж вам ня жартачкі! Мой бацька пачаў мне гаварыць, што ў мяне „ня ўсе дома“. А я—толькі таго! „Нічога“—кажу бацьку, а сам тым часам бяру зломаную каламашку і рыдлёўку ды—гайда на пляц. І так не адзін я—усе піонэры: хто попелу, хто сажы, а хто „тлустую зямлю“ з-пад уборных цягне ўгнойваць свой вучастак.

Агарод узаралі. Для гэтай справы нанялі дзядзьку Янку. Узаралі і ўгнойваем. Бацька мой ня крычыць на мяне, а ўсю бяду ўскладае на рабога Сьцяпанавага парсюка (думае, што гэта парсюк пакапаў так „тлустую зямлю“ за хлявом). А для мяне гэта і добра. Праз тры дні мы пачалі садзіць буракі, капусту і турнэпс.

* * *

— Пахвалішся тады, калі вырасьце добра, — гаварыў мой бацька:—мо' дарма зямлі нанасіў.

А я нічога. „Пачакайце,—кажу, — тата“. У вольную хвіліну бег да школы. Абрываў траву з агароду (гэтак і ўсе піонэры). Калі патрэбна—паліваў нядаўна пасаджаную капусту, адным словам,—працаваў.

Настаўнік трымаў Келму на прывязі (бо ён любіць пакачацца пад сонцам на градах), а Янка павінен быў Румзу выганяць да пастуха. Гэты загад настаўнікам і Янкам выконваўся на ўсе 100%, і гародніна пачала расьці бяз ніякіх перашкод.

*Піонэры і вучні! Капейкін цікавіцца, ці ёсьць у вас агароды і што вы на іх робіце? Пішэце.*

Праз два месяцы я прывёў бацьку на агарод паказваць нашы, як ён казаў, „мудрагельствы“. Шмат было сялян. Якраз нядзеля была. Бацька мой стаяў і пакручваў галавою. Недалюбліваў крыху таго, што адно каліва месца шмат займае, але потым згадзіўся з гэтым, прымаючы пад увагу, што пры такой пасадцы дасягаеш вялікай ураджайнасьці. Абяцаўся ў гэтым годзе зрабіць таксама ў сябе на агародзе. Я ўжо і насеньне ачысьціў з бацькам—у мястэчка вазілі, і карняплоднага насеньня купілі. Ня хваліцца больш бацька сваім „стажам“ і што ён пятнаццаць барон зламаў, а слухае тое, што гаворыць навука.

* * *

Мы і сёлета разгарнулі шырокую кампанію па сяўбе. З саўгасу прывезьлі трыер. Чысьцім сялянскае збожжа і зноўку рыхтуемся да працы на паказальным вучастку. Гэта ўсё мы робім разам з комсамольцамі, таму праца йдзе шпаркімі крокамі.

А як вы?

**Малодшы брат Капейкіна.**



# Му-му-му... Пашкадуйце мяне!



У Янкі вялікае гора. З яго кошкаю Белкаю сталася бяда. Белка, гуляючы, папала ў вядро з аліваю. Траха не ўтапілася. Янка ледзь пасьпеў яе выцягнуць. Абцёр ён Белку зьверху саломаю і думаў, што ўсё абыйдзецца добра.

Раніцою Белка стала бы лякіраваная. Сьмешная, сьмешная. Ходзіць, спатыкаецца і жаласна кур'яўчыць. Але ёй было не да сьмеху.

На другі дзень Белка перастала есьці і ўвесь час дрыжала. А к вечару выцягнула лапкі і адубела.

Янка скрозь сьлёзы ўспамінаў зложаную ім песеньку:

Белачка, кошачка
Сядзіць на вакенцы,
Песенькі сьпявае,
Малачка чакае...

Эх, ніхто цяпер у Янкі нічога не папросіць. Ніхто не пазабаўляе яго вясёлымі скокамі. І Янка горка заплакаў. Калі сьлёзы падсохлі, у Янкі раптам мільганула думка:—Ад чаго памерла Белка? Няўжо ад таго, што ў аліве пакупалася? Аліва-ж не атрута. Аліва-ж варанае масла, а сырое масла ядуць людзі, і яно ня прыносіць ніякай шкоды. У чым тут справа?

Думаў, думаў, нічога ня прыдумаў і пашоў да настаўніка. Вось што адказаў настаўнік:

Белка памерла ад таго, што густая аліва, застыўшы, пакрыла ўсё цела яе суцэльнай скарынкай. Яна як-бы задушылася.

— Але-ж рот у Белкі ня быў замазаны,—супярэчыў Янка.

— У тым-жа й справа, браце,— адказаў настаўнік,—што ўсякая жывёла і чалавек дыхае ня толькі ротам, але ўсёю скураю.

Дыханьнем праз рот мы ачышчаем лёгкія. Дыханьнем праз скуру ачышчаецца цела ад розных вылучэньняў вільгаці. А гэтыя вылучэньні вядомыя: гэта—пот, тлустасьць і розныя солі.

— Як-жа гэта можна дыхаць праз скуру?—не згаджаўся Янка,—скура-ж шчыльная. Вось боты з каровінай скуры, дык нават вады не прапускаюць.

— Ну, гэта ты памыляешся. Нават добра прапускаюць. Папрабуй пахадзіць цэлы дзень у простых ботах па макраце, і тады гэта сам заўважыш. Залежыць гэта ад таго, што скура працыкана маленькімі, нябачнымі для вока, дзірачкамі, якія завуцца порамі. Гэтыя дзірачкі ня лёгка прапускаюць ваду, але затое лёгка выпарваюць яе. Па гэтых дзірачках вада падымаецца гэтак-жа хутка, як газа па кноце, і, падняўшыся, пэратвараецца ў пару.

— Дык вось, казаў настаўнік,— гэткімі порамі ўскрыта і наша скура, і скура ўсялякай жывёліны. Па гэтых порах і вылучаюцца з цела тыя адкіды, аб якіх я казаў.

Але поры ад поту і тлустасьці могуць забруджвацца і затыкацца, ад чаго дыханьне цела адбываецца зусім павольна. Калі доўга ня ходзіш у лазьню, дык адчуваеш, што цела тваё становіцца цяжкім. Сходзіш у лазьню—стане лёгка і вольна. Гарачая вада адчыніць поры, цела вольна пачынае дыхаць.

Вучоныя рабілі такі досьлед. Пакрывалі лякам пацука, гэта значыць, затыкалі ўсе поры яго цела. Пацук праз некаторы час здыхаў. З ім, як бачыш, адбывалася тое-ж самае, што і з тваёй Белкай. Вось таму аграномы і раяць наглядаць за чыстатою скуры жывёл.



— Дык няўжо-ж карову трэба ў лазьню вадзіць?—запытаў Янка. Настаўнік засьмяяўся.

— Ну, у лазьню то гэта ўжо лішняе, а мыць карову трэба. За граніцаю, напрыклад, мыюць кароў проста на панадворку. І ў нас аграномы раяць мыць кароў, толькі, зразумела, летам. А зімою кароў патрэбна чысьціць шчоткай і абціраць анучкай.

Пачакаўшы тыдзень пасьля такой размовы, Янка вышаў на панадворак і пачуў жаласнае рыканьне.

— Напэўна сена не хапіла або забыліся напаіць,—падумаў Янка, але калі падышоў да каровы, то ўбачыў, што сена ў яе хапала, а вада засталася недапітай.

— Ну, што-ж, дуроньніца, равеш нямаведама чаго? Чаго табе не хапае?

Карова паглядзела на Янку жаласнымі вачыма і зноў зарыкала... І ад гэтага рыканьня Янку быццам прычулася:



— Му-му-му, пашкадуйце мяне!

Зірнуўшы на карову, Янка адразу-ж здагадаўся, у чым тут справа.

Замерзла гразь, камякамі вісела на поўсьці. Адзін бок быў зусім залеплены гразёю.

Зразумела, справіцца з каровай Янку было не пад сілу. Затое-ж, калі зьявілася цялятка, то ён добра яго даглядаў і кожны дзень чысьціў яго шчоткай.

---

Добра, што Янка пачаў чысьціць цяля. Толькі бяда будзе, калі ён наглытаецца пры гэтым пылу, які паляціць з цяляці.

Чысьціць кароў трэба вось як: узяць кавалак чыстай анучы, памачыць у вадзе і завязаць ёю рот, калі йдзеш чысьціць скаціну. Пыл ня пройдзе праз анучу і асядзе на яе. Пасьля чысткі вымый анучу і схавай да наступнага разу.

**М. Барысаў.**

Вожык

ГУМАРЫСТЫЧНАЯ
ГАЗЭТА
ЮНЫХ ПІОНЭРАЎ
№ 5



## 1. Аб чым прасіў мяне рабочы.

Прышоў да мяне рабочы з гарадзкога заводу. Прышоў і кажа: „Ты, Вожык, бачыш многа народу. Усюды бываеш, усё ведаеш і знаеш—памажы мне ў бядзе,—просіць рабочы. Ну, дык што-ж? Я вельмі ахвочы. Тут рабочы і пачаў свой сказ.—Бачыш, Вожык, тут у нас нельга земляробствам займацца. Мы заняты іншаю працай. Гнём сьпіну на заводзе за машынай. Шпарыць з печаў на нас гарачынёй і парай. Затое мы вёсцы даем тавары. А гэта справы не благія. Мы даем трактары, трыеры, плугі і іншыя машыны. Працуем да поту, а таму есьці вялікая ахвота. Калі хлеба з вёскі мала вязецца, дык на пусты жывот і праца не даецца. Ты-ж, Вожык, малы і лоўкі, дык паглядзі, як там ідуць хлебазагатоўкі.

А Вожык памагчы рад. Сякія-такія манаткі сабраў і пайшоў па Беларусі вандраваць і за хлебазагатоўкамі назіраць. Шустры Вожык ад сяла да сяла віхрам скача. Паслухайце-ж, што ён бачыў.

Сядзяць адны сяляне ў хатах, хлебам багатыя, а прадаваць не выяжджаюць— усё мо' падаражае?—чакаюць.

У другіх-жа цабры з брагаю кіснуць—яны з хлеба самагонку цісьнуць.

Трэція-ж лішні куль прадаюць кулаку. А чацьвертыя-ж—аж нялоўка сказаць мне—лішнім зернем кормяць сьвіней.

Пятыя-ж рады старацца хлеб адвозіць у коопэрацыю. Але тут установа вінавата. Загадчык крыху сукаваты і па цэлых тыднях зацягвае валакіту. Ім і ня бытта, што сяляне ля коопэратыву памерзнуць, пачакаюць і дахаты з хлебам уцякаюць.

Вось такая неразьбярыха. А рабочаму і ліха. Хлеба не хапае, а гэта ў працы замінае, так нікуды нягодна. Яно і для вёскі шкодна. Ня будзе трыера, трактара, плуга, дык і вёсцы прыдзецца туга.

Вось і паднялася тут гвалтоўка—трэба-ж палепшыць хлебазагатоўкі! Аб гэтым пачынаюць шмат хто прамовы вёрстамі мераць. А Вожык сабраў піонэраў.

— Вы мае памочнікі, многа можаце зрабіць у гэтай справе дапамогі. Не глядзеце на тое, што вы маладыя зусім,—у гэтай працы вы добра паможаце ўсім.

А з тымі, хто жуе хлеб для самагону—дзейнічайце па закону. Як мага, каб больш зьнішчыць выпадкаў шкодных, кажэце, каб не прадавалі хлеб кулаку, бо гэта для краіны шкодна.

— А пра валакіты ва ўстановах — пішэце ў газэту абавязкова. Дык пазбудземся і гэтага гора. Установы жывымі стануць скора.

Той, хто Шустраму Вожыку сябрам стаць хоча, як мага лепш дапамагайце рабочым.

## 2. За ўраджай!

Быў я ў аднэй вёсцы, што ў Узьдзенскім раёне. Вёска, як вёска. І людзі тут, як людзі. Толькі вось атрад, як не атрад. Нядаўна там было ажно трыццаць чалавек, цяпер-жа зрабілася 60 — лічба, здаецца, грандыёзная. Гэта-ж калі выстраяцца хлопцы і дзяўчаты,—дык адно падзівіцца прыходзіцца. Вы ўжо пэўна мяркуеце задаць мне пытаньне—а як-жа працуюць?

Выбачайце, дарагія чытачы—тут дык хоць зламжы рукі ды маўчы. Бо пра адмоўнасьць у працы пісаць дык ажно рукі баляць. Не працуюць, як гэта бывае ў іх звычайна. Колектыўна лодыра качаюць адчайна. Паглядзіш на іх, дык проста жах! Гэта-ж ужо надыходзіць ураджай, хутка вясна, а там і лета. Выйдзе ў поле жыта жаць кабета, і толькі рукамі замахае, калі неўраджайнае поле спаткае. А піонэр, які будзе праходзіць, і тут ён цэлы даклад згародзіць: „Слухайся, агранома добра жыць будзе і ў полі і дома“ Калі-ж мы на гэты атрад добра паглядзім, дык і ўбачым, што піонэры там лодыры.



Лішнім зернем кормяць сьвіней.

Гэта-ж вунь у Канцавога Тодара на вышках попелу кадушкаў тры валяецца, а Тодар хутка зьбіраецца да Узды на продаж адвезьці—узяць за яго грошы—выпіць горкай і ў закуску зьесьці. А піонэры толькі моўчкі пазіраюць. А самі добра знаюць, што калі на поле вывезеш гэты попел, дык увосень ураджаю шмат захопіш. Тодару-ж ня хочуць растлумачыць — хоць несьвядомасьць яго і бачаць. І гэта называецца ў іх праходзіць пасяўная кампанія!



Піонэр Янка Мацееў ня раз бачыў, як бацька жыта веялкай веяў. Зярняткі адбярэ ад мякіны на сілу—а ў іх многа гірсы і пылу, таму і неўраджайнасьць заўважаецца на шнуру, а Янка добры гаварун—на сходах можа выступаць здакладам, разважаць, даваць няжыцьцёвым парады. А вось няхай-бы растлумачыў старому Мацею, каб ён жыта веялкай ня веяў, а праз трыер прапусьціў Тады і ўраджай будзе цьвісьці

У заключэньне хачу яшчэ дабаўку сказаць, што хто маім сябрам стаць хоча, дык у працы за падняцьце ўраджайнасьці прымай удзел ахвоча.

ЦАНА 12 кап.

# Малая гародніца.

Верш Надзеі А.

*Мал. Абрамава.*

Русая Няніла
Блізенька ля хаткі
Для сябе зрабіла
Дзьве маленькіх градкі.
Уставала рана
(Сонца толькі ўсходзіць),
Працавала жвава
У сваім гародзе.
З самага пачатку
Добра глебу ўзрыла
На чарнюткай градцы
Русая Няніла.
Камячкі—як мама—
Уважна растрасала,
А пасьля рыдлёўкай
Градку выляпляла.

* * *

Вечарам у хаце,
Зараз па вячэры,
Памагала маці
Адбіраць насеньне...
І пытала матку
Ад шчырага сэрца:
— Ці многа у ямку
Зярнятак кладзецца,
Ды калі насеньне



Ў землю высяецца?
Гаварыла мама:
— Моркву, боб і рэпу,
Буракі, салату—
Разам сеяць трэба.
Так-жа кроп і макі,
Рэдзьку і радыску...
Гэтыя зярняткі
Уздоўж кладуцца, блізка.
Мошка каб ня зьела,
Сеяць трэ' сьпяшацца,
Пакуль бэз у садзе
Пачне красавацца.
Вось, мая Нянiся,—
Слухай і вучыся!

* * *

Урэшце лятуценьне
Нянілы збылося:
Рознае насеньне
Ў градкі палеглося...
Цешыцца Няніла
(Уцеха і матцы!)
Слушна ўсё зрабіла
На сваёй-жа градцы.

* * *

На градзе, ля плоту,
Падняліся ўсходы.
Колькі шчасьця, сьмеху,
Радасьці, уцехі!
Морквы і цыбулі
Роўныя радочкі...
Ўсходзяць так прыемна
Ценкія лісточкі...

* * *

Калі сонца ўвечар
Косы апусьціла,
Градкі палівала
Русая Няніла.
Разам з гараднінай
Узышла травіца:
Малачай з крапівай,
Розная макрыца.
А каб ня глушыла



Градак зельле злое,—
Дык тады Няніла
Градку сваю поле.
Ногі падранцьвелі,
Перасохла ў роце,
Пальцы пачарнелі,
Запяклась на сонцы,
Але дапалола...
І глядзіць Няніла,
Як цяпер вясёлай
Выглядае градка!
Каб зайчыха шкоды
Градцы ня ўчыніла,—
Пудзіла страшное
З маткаю Няніла
У зямлю ўкапала
Блізка ля капусты...
Пудзіла махае
Абарванай хустай,
Страшны жах наводзіць
Той балван лахматы,
І зайцы ня ходзяць
У гарод на грады...

* * *

Ўлетку часта мама
Крупнікі варыла,
Дык тады насіла
Моркву з град Няніла.
І ў сто раз смачнейшы
Быў абед Нянілы,
Калі з яе градкі
Моркаўку варылі.



Друкарня БДВ. У ліку 2400 экз. Заказ № 1874. Галоўлітбел № 1042.